# 20 фактаў пра вялікага князя Ягайлу

**Некалькі фактаў, якія варта было ўспомніць пра адну з самых вядомых і супярэчлівых постацяў у беларускай гісторыі – вялікага князя Ягайлу.**



**1.** Калі дата смерці Ягайлы вядомая дакладна, з датай нараджэння князя гісторыкам пашанцавала менш. Называюць 1348, 1350, 1351, 1352, нават 1362 год.

**2.** З імем князя таксама не ўсё зразумела. Дакладней, нічога не зразумела, кожны агучвае сваю версію. Згодна з адной з іх, Ягайла – не што іншае, як Якаў. Згодна з другой – скажоная Ёган, бо менавіта так быццам называлі Іванаў у Віцебску, дзе сядзеў князем Ягайла некаторы час. Літоўцы, зразумела, выводзяць імя са сваёй мовы і маюць варыянты "Ягайла – моцны яздок, вершнік" (ад літоўскага joti – "ехаць конна" і gailas – "моцны") ці зусім абсурднае "Калі жаль" (jei – «калі» і gailis – "жаль"). На фоне шыкоўнага імя "Калі жаль" астатнія варыянты кшталту "Злосны" (ад скандынаўскага gal), "магутны" ад індаеўрапейскага gail, "Белы" ад старапрускага gaylis і нарэшце – "Светлы славай" – "Jag-gailo" ўжо не выглядаюць чымсьці дзіўным.

**3.** Маці Ягайлы была цвярская князёўна Ульяна, а яго жонкай ледзь не стала дачка маскоўскага князя Дзмітрыя Данскога Сафія. Былі рэальныя шанцы, што вялікі князь прыме праваслаўе і павернецца тварам не на Захад, а на Усход.

**4.** Літоўскае войска пад кіраўніцтвам Ягайлы ледзь не стала трэцяй сілай на Куліковым полі, на баку Мамая. Лёс арміі Дзмітрыя ў гэтым выпадку быў бы прадвызначаны, а прычына няўдзелу Ягайлы ў бітве – да гэтага часу дыскусійнае пытанне.

**5.** Вялікім князем Літоўскім Ягайла станавіўся двойчы – у 1377, пасля смерці Альгерда, і ў 1381 годзе, калі Вільня адкрыла яму вароты. У 1380-1381 гг. Ягайла, якога за сумнеўныя адносіны з крыжакамі дзядзька Кейстут пазбавіў трона, разам з маці сядзеў цішэй вады ніжэй травы ў Віцебску. Калі пляменнік перамог у грамадзянскай вайне, ён састарэламу Кейстуту такой ласкі не аказаў.

**6.** Адносіны Ягайлы з самым вядомым з яго родзічаў, Вітаўтам, былі, скажам так, складаныя. Неаднойчы кузэны рабіліся сябрамі, неаднойчы ворагамі, неаднойчы хаўруснікамі на палітычным узроўні, неаднойчы Вітаўт імкнуўся пазбавіцца занадта назойлівай апекі кузэна. Аднак з 1392 года адкрытай варожасці паміж сваякамі не было.

**7.** Адна з найбольш вядомых падзей, якая тычыцца Ягайлы, – яго шлюб з польскай каралевай Ядвігай і Крэўская унія. Падрабязна пра яе вы можаце прачытаць восьць тут.

**8.** Менавіта дзякуючы Ягайлу пачалася агульная гісторыя ВКЛ і Польшчы, якая з невялікімі перапынкамі працягвалася да 1795 года, калі абедзве дзяржавы зніклі з карты Еўропы.

**9.** У розны час Ягайла паспеў пабыць хаўруснікам і ворагам амаль усіх суседзяў – крыжакоў, Польшчы, рускіх княстваў. Найлепшыя адносіны былі ў князя з Мамаем (быў толькі не найлепшым хаўруснікам, ніколі не быў ворагам) і Польшчай (у пачатку праўлення адносіны былі не найлепшыя, потым – унія), найгоршыя – з Ордэнам (часовыя саюзы наўрад ці перакрываюць разгром пад Грунвальдам). З Масквой у Ягайлы былі адносіны "ні вайны, ні міру" – літоўскае войска пад яго кіраўніцтвам ніколі не сыходзілася з маскоўскім, але паўнавартаснага саюзу таксама не было.

**10.** Менавіта Ягайла афіцыйна хрысціў Літву ў каталіцтва і заснаваў Віленскае біскупства. У доўгатэрміновай перспектыве гэта выбіла глебу з-пад ног Тэўтонскага ордэна, сэнс існавання якога з хрышчэннем апошняй паганскай дзяржавы Еўропы знік.



**11.** Літоўская гістарычная традыцыя прыпісвае Ягайлу яшчэ адну "рэлігійную" заслугу. Згодна з ёй, менавіта вялікі князь пераклаў з Lingua Latina на літоўскую мову адну з самых вядомых малітваў у хрысціянстве "Ойча наш".

**12.** Пасля Крэўскай уніі супраць Ягайлы паўстала большая частка літоўскай эліты на чале з Вітаўтам. Паводле Востраўскага дагавора 1392 года апошні станавіўся намеснікам Ягайлы ў ВКЛ і вялікім князем (magnus dux), а сам былы вялікі князь захоўваў за сабой тытул вярхоўнага князя (dux supremus). Наколькі значным быў тытул для самога Ягайлы, сведчыць той факт, што ён амаль ніколі ім не карыстаўся, не кажучы ўжо пра рэальны ўплыў на палітыку Княства.

**13.** Амаль няма сведчанняў таго, што Ягайла быў добрым военачальнікам. Пад Грунвальдам ён стаяў на чале саюзнага войска, але літоўскія кантынгенты падпарадкоўваліся Вітаўту, польскія – Зындраму з Машковіц, татарскія – Джэлаладзіну і таму ж Вітаўту. Нават на славутай карціне Яна Матэйкі "Грунвальдская бітва" кароль амаль не бачны на заднім плане ў правым верхнім куце – у адрозненне ад таго ж Вітаўта. Падчас грамадзянскай вайны ён перамагаў Вітаўта, але маючы колькасную перавагу. А роўная бітва паміж ім і яскравым ваяром Кейстутам так і не адбылася – Ягайла адолеў без бою, дзякуючы здрадзе. Хутчэй за ўсё, Ягайла быў палкаводзец кшталту Актавіяна Аўгуста – сам не быў бліскучым ваенным талентам, але меў здольнасць ставіць на найважнейшыя пасады людзей, якія гэтымі талентамі валодалі ў поўнай меры.

**14.** Да шляхты Ягайла і ў статусе вялікага князя, і калі ўжо стаў польскім каралём, ставіўся добра. Вядомыя яго прывілеі 1388 года, Гарадзельскі 1413 года, 1430 года. Менавіта падчас праўлення Ягайлы шляхта ВКЛ атрымала доступ да польскіх гербаў.

**15.** Палякі могуць дзякаваць Ягайлу за развіццё вышэйшай адукацыі ў краіне. Так, Кракаўскі ўніверсітэт быў заснаваны Казімірам Вялікім у 1364 годзе, але хутка прыйшоў у заняпад, і паўнавартаснае жыццё пачаў толькі ў 1400 годзе, дзякуючы падтрымцы Ягайлы. "Узнагарода" знайшла "героя" – сёння ўніверсітэт вядомы як Ягелонскі.

**16.** Фанатычным католікам Ягайла ніколі не быў. Мяркуючы па ўсім, яму ўвогуле не было асаблівай справы да таго, у што верыць – абы было на карысць. Яскрава гэта выявілася ў 20-я гады XV стагоддзя – тады Ягайла ў барацьбе чэхаў-гусітаў і немцаў-католікаў не аказаў адзінаверцам ніякай рэальнай падтрымкі. Гусітаў кароль таксама не вельмі падтрымліваў афіцыйна, але польскія войскі не зрабілі ні кроку ў Чэхію. Нягледзячы на тое, што прасілі іх пра гэта неаднаразова.



**ПРАЦЯГ на старонке 16** ▶

# 20 фактаў пра вялікага князя Ягайлу

ПРАЦЯГ. Пачатак на старонке 14



**17.** У масавай свядомасці замацаваўся міф пра злога Ягайлу, які настолькі не хацеў, каб ВКЛ стала каралеўствам, што ледзь не асабіста затрымаў каралеўскую карону ад імператара Жыгімонта ў Польшчы і не пусціў яе да князя, ад чаго сумны Вітаўт і памёр. На самай справе, безумоўна, усё было не так. Па-першае, паміж Ягайлам і Вітаўтам існаваў дагавор: Ягайла пагаджаецца на каранацыю Вітаўта, а пасля смерці апошняга трон пераходзіць да сына Ягайлы – таму кароль у выніку адкрыта падтрымліваў намаганні кузэна. Па-другое, карону затрымалі па загадзе каралеўскай рады Польшчы – Ягайла быў далёка не абсалютным манархам кшталту "караля-сонца". Па-трэцяе, сама па сабе затрымка кароны нічога не вырашала – з санкцыі імператара карона магла быць выробленая ў самой Вільні. І па-чацвёртае, Вітаўту падчас патэнцыяльнай каранацыі было амаль 80. І тое, што ў гэты час састарэлы князь памёр, не павінна выклікаць асаблівага здзіўлення.

**18.** Падчас грамадзянскай вайны, якая пачалася пасля смерці Вітаўта (Кейстутавіча), Ягайла (Альгердавіч) падтрымаў Жыгімонта (Кейстутавіча) супраць яго саперніка Свідрыгайлы (Альгердавіча). Што яшчэ раз даказвае, што ў палітыцы блізкае сваяцтва вялікага значэння не мае.

**19.** Жонак у Ягайлы было чатыры. Першая – каралева Ядвіга – прынесла яму польскі трон і дачку Елізавету Баніфацыю, якая пражыла толькі месяц. Другая – Ганна Цэльская, унучка Казіміра Вялікага па жаночай лініі – таксама нарадзіла каралю дачку Ядвігу Ягайлаўну. Тая пражыла больш чым месяц, але памерла раней за бацьку. Трэцяй жонкай стала Эльжбета Граноўская , якая ўжо некалькі разоў была замужам. Дзяцей каралю яна не нарадзіла. Нарэшце, чацвёртая жонка, Соф'я Гальшанская, была маладзейшая за мужа прыблізна на паўсотні гадоў. Толькі з ёй састарэлы кароль нарэшце дачакаўся нашчадкаў мужчынскага полу – Уладзіслава (будучага караля Уладзіслава III Варненчыка) і Казіміра (будучага караля Казіміра IV Ягелончыка).

**20.** Дынастыя Ягелонаў кіравала Польшчай і ВКЛ да 1572 года і дала сем каралёў Польшчы і шэсць вялікіх князёў літоўскіх. Адзіным Ягелонам, які ніколі не быў на літоўскім троне, быў Ян Ольбрахт, таксама трон ВКЛ пасля смерці Ягайлы займала два не-Ягелоны – ужо згаданыя Жыгімонт Кейстутавіч і Свідрыгайла Альгердавіч. Агулам дынастыя сталася паспяховай і адзінай ва ўсёй гісторыі Польшчы, якая кіравала досыць доўгі час – з 1386 да 1572 года (ВКЛ у гэтым сэнсе пашанцавала болей, Гедымінавічы кіравалі краінай з 1316 па той жа 1572 год). Прадстаўнікі дынастыі Ягелонаў "адзначыліся" на харвацкім, венгерскім і чэшскім стальцах.

**Дзяніс Буркоўскі, budzma.by**



# 20 незвычайных фактаў пра Кастуся Каліноўскага

**Ён першы сярод беларускіх дзеячоў, хто адкрыта заявіў – Беларусь павінна быць самастойнай. Жыў паводле філязофіі: лепей скончыць свой век на шыбеніцы, чым здрадзіць сябрам і ўласным перакананьням.**



Як сапраўдны рамантык хацеў бачыць беларусаў такімі, якім быў сам: сьмелымі, самаахвярнымі, эмацыйна адкрытымі, прынцыповымі, артыстычнымі, свабоднымі. Герой нашых 20 незвычайных фактаў – Кастусь Каліноўскі.

**1. Лічыў што шляхта павінна быць зьнішчаная**

«…перадусім нам трэба зьнішчаць гэтую гнілую і гангрэнозную касту, якую называюць дваранствам»; «Паўстаньне мае быць чыста народным – шляхта, паколькі з намі не пойдзе, няхай гіне – тады сялянская сякера не павінна спыніцца нават над калыскай шляхецкага дзіцяці».

**2. Быў абураны тым, што сяляне дапамагаюць расейскім войскам лавіць паўстанцаў**

«За вашую долю кроў праліваюць справядлівыя людзі, а вы – як тыя Каімы да Юды Скарыёты – добрых братоў прадавалі ворагам вашым! (…) якім вы правам сьмелі памагаці маскалю ў нячыстаму дзеле?! (…) Вы скажаце, што гэта рабілі паняволі, – но мы людзі вольныя, нямаш у нас няволі! а хто з вас хоча няволі маскоўскай – таму мы дамо шыбеніцу на галіну!».

**3. Не цярпеў пярэчаньняў**

Адзін зь лідэраў партыі «белых» Якуб Гейштар адзначае: «Гарачы, нястрыманы і прасякнуты крайнімі прынцыпамі, ён не любіў пярэчаньняў (…) не любіў апазыцыі, а таму акружаў сябе людзьмі, якія сьлепа зь ім згаджаліся»; Ежы Кучэўскі-Порай успамінае: «Каліноўскі пярэчыў супраць усяго, ня даў нікому гаварыць, дык мы папрасілі яго, каб дазволіў нам спачатку паразумецца паміж сабой, а потым ужо зь ім разам»; ветэран рэвалюцыйнага руху Апалін Гофмейстар дадае: ” [Каліноўскі – В. Д. М.] вельмі быў рады, што я ня лезу ні ў якія яго загады…«.

**4. Сварыўся з мачахай**

Бацька Каліноўскага Сымон успамінаў: «Сын мой, (…) як прыехаў у 1861 г. зь Пецярбургскага ўнівэрсытэта дамоў, пачаў сьпярша дапамагаць мне па гаспадарцы, пасьля, пасварыўшыся са сваёй мачахай [маці Каліноўскага Веранiка памерла, калі хлопчыку было 5 год – В. Д. М.], аб’явіў мне, што хоча шукаць сабе месца…».

**5. Марыў пра незалежнасьць Літвы (Беларусі)**

Адзін з паўстанцаў Валеры Пшыбароўскі пісаў: «…ён быў адным з галоўных прыхільнікаў і папулярызатараў сэпаратысцкіх літоўскіх памкненьняў і не адзін раз выказваўся на сваёй сакавітай народнай мове, што «дурным варшаўскім мазгаўням нельга давяраць лёсы Літвы»; «Канстанцін Каліноўскі (…) настойліва праводзіў ідэю аб самастойнасьці Літвы»; «…Літва (…) павінна выкарыстаць разлад паміж Расеяй і Польшчай і зрабіцца самастойнай».

**6. Калі зь ім не згаджаліся – гатовы быў ужыць зброю**

«…Францішак [Далеўскі – В. Д. М.]… пераходзь да нас! Цудаў даб’емся, калі ты нас зразумееш, калі будзеш з намі! Тваёй галавы, твайго сумленьня нам не хапае! (…) Маўчыш! Значыць, не? Знаю цябе, ня пойдзеш за намі, выходзіць – супраць нас! Калі так, дык ведай жа – я сам цябе тут у тваім уласным доме сярод тваіх блізкіх прыкончу кінжалам!».

**ПРАЦЯГ на старонке 18 ▶**

# 20 незвычайных фактаў пра Кастуся Каліноўскага

**ПРАЦЯГ. Пачатак на старонке 17**



PRYKAZ

AD

RADU POLSKAHO NAD CEŁYM KRAJEM

LITOUSKIM I BIEŁORUSKIM

DA

Narodu ziemli Litouskoj i Bieloruskoj.

**7. Быў праціўнікам праваслаўя**

«Ні адзін ужэ можэ забыўся, што бацька яго быў яшчэ справядлівай уніяцкай веры і ніколі ўжэ ня спомніць на тое, што перавярнулі яго на сызму, на праваслаўе, што ён сягодня, як той сабака, жыве бязь веры і, як сабака, здохне чартам да пекла!!! (...) хто не пяройдзе на унію, той, як сабака, здохне, той на тамтам сьвеце пякельныя мэнкі цярпеці будзе!».

**8. Называў Мураўёва «згрыбелым еўнухам» і «распусьнікам»**

«...згрыбелы еўнух ліхадзейства (...) гэты зьбеглы з галер распусьнік... кідаецца ў сваім бяссільлі».

**9. Запалохваў і шантажаваў шляхту**

Дробны чыноўнік Эразм Заблоцкі ўспамінаў: «...калі я (...) адмаўляўся ад пасады камісара, то Каліноўскі сказаў мне, што ў такім выпадку ён аддасьць мяне ў рукі законага ўраду (...): «Не, брат, цяпер ня час аднеквацца, калі замежныя краіны вядуць перамовы (...) у нашу карысьць, а вы, баязьліўцы (...) хочаце даць Расеі сродак упэўніць іх, што у нас толькі дзіцячыя гульні, як яно і ёсьць, і няма сапраўднага патрыятызму. Я вас усіх бачу, а таму раблю так, каб прымусіць служыць Жонду Нарадоваму і такім чынам упэўніць замежны ўрад, што патрыятызм у нас існуе».

**10. Прысутнічаў амаль на кожным публічным павешаньні**

Якуб Гейштар пісаў: «Ён, якога пільна шукалі, на кожную экзэкуцыю прыходзіў да Дамініканскіх брам, бачыў тых, каго вялі на сьмерць, і пад пагрозай штодзённага арышту ні на хвіліны ня страціў энэргіі».

**11. Наводзіў страх сваёй патрабавальнасьцю і строгасьцю**

Расейскі гісторык Васіль Ратч адзначаў: «...усюды па папярэднім загадзе быў для яго прыгатаваны экіпаж, расстаўленыя коні, мясцовыя ўлады арганізацыі павінны былі сустракаць яго на межах сваіх земляў і праважаць у дарогу. За самы дробны недагляд у аказаньні належнай пашаны ён, не саромеючыся суровых словаў, рабіў заўвагі, і праезд рэвалюцыйнага кіраўніка Гродзенскага ваяводзтва пакінуў пасьля сябе агульны страх»; паўстанец Юльян Ягмін дадае: «Зараз жа ў нас паднялася мітусьня, чыстка і папраўка амуніцыі (...) Акуратна ў прызначаную гадзіну пад'ехала брычка і ў ёй нейкі пан (...) у вялікіх ботах, з рэвальвэрам і кінжалам за поясам, ён быў росту вышэй сярэдняга, шыракаплечы, сутулы, буйныя рысы твару з маленькай бародкай мелі нешта нахабна-дзёрзкае... ».



**12. Быў ворагам царызму, але не рускага народа**

«Народ маскоўскі скаланаецца ад нашай векавой крыўды. Ён свабодным братам нашым, а не прыгнятальнікам быць жадае і адказнасьць перад нашчадкамі за нашу жалезную няволю рашуча ўскладае на гатовы сканаць царызм».

**13. Хварэў на эпілепсію**

У лісьце да рэктара Пецярбургскага ўнівэрсытэту Пятра Плятнёва Каліноўскі пісаў: «Гадоў некалькі таму мяне спасьцігла падучая хвароба. Я зьвяртаўся да шматлікіх дактароў, але без усялякай карысьці (...) Пазбаўлены ўсіх сродкаў (...) я маю гонар пакорна прасіць (...) аб прызначэньні мне (...) 30 руб. на маё лячэньне». На дакумэнце была прыпіска ад інспэктара А. Фіцтум фон Экстэдт: «Студэнт Каліноўскі сапраўды хворы, (...) і за выдатныя паводзіны цалкам заслугоўвае ўвагі». 30 рублёў выплацілі.

**14. Не рызыкаваў жыцьцямі шматдзетных паўстанцаў**

Калі было прынята рашэньне забіць віленскага маршалка і актыўнага супрацоўніка з маскоўскімі ўладамі Аляксандра Дамейку, і зьявіўся чалавек гатовы зьдзейсьніць прысуд, то Каліноўскі забараніў яму гэта рабіць, бо ў гэтага добраахвотніка: «...жонка і некалькі чалавек дзяцей, а ў нас для выкананьня выракаў ёсьць жандары».

**15. Меў гіпнатычнае ўзьдзеяньне на ўдзельнікаў паўстаньня**

Паводле яго паплечніка Юзафа Каліноўскага: «...Я бачыў у ім чалавека рашучага, знаходлівага, які ўсёй сваёй дзейнасьцю і ахвярнасьцю (...) якбы папракае іншых у баязьлівай асьцярожнасьці і слабасьці. Сама небясьпека яго палажэньня, ператварала яго ў своеасаблівага волата і магла прыцягваць да яго іншых (...) Сваёю знаходлівасьцю і самаадданасьцю ён узбуджаў іншых; кажучы шчыра, я сам захапіўся гэтым бокам яго дзейнасьці...».

**16. Стваральнік першай беларускай газэты на роднай мове – «Мужыцкай праўды»**

Юзаф Каліноўскі адзначаў: «...друкаванае слова было заўсёды яго слабасьцю, ён надаваў яму нейкае асаблівае значэньне».

**17. Хацеў служыць у віленскага генэрал-губэрнатара Уладзіміра Назімава**

«Скончыўшы курс навук у імпэратарскім С.-Пецярбургскім унівэрсытэце са ступеньню Кандыдата і жадаючы паступіць на службу, маю гонар пакорна прасіць Вашу высокасьць даць мне магчымасьць служыць пад мудрым кіраўніцтвам Вашай высокасьці». Пад час паўстаньня пісаў пра Назімава так: «Генэрал Назімаў столькі ж зрабіў для супакаеньня краю, колькі генэрал Мураўёў для распачынаньня ў ім бунту».

**18. Яго выдаў паўстанцкі камісар Магілёўскага ваяводзтва Вітальд Парфіяновіч**

Паводле Аляксандра Маслова, чыноўніка з канцылярыі Мураўёва, гэты Парфіяновіч быў: «...малады чалавек, выдатна абазнаны ва ўсіх таямніцах галоўных дзеячоў бунту. Палкоўнік Лосеў (...) абяцаў яго памілаваць, калі той дапаможа следзтву. Малады арганізатар паведаміў (...) і само месцазнаходжаньне Каліноўскага, зь якім ён быў у блізкіх стасунках. [Парфіяновіч апісаў – В. Д. М.] прыкметы Каліноўскага [і паведаміў, што – В. Д. М.] ён пражывае з фальшывым пашпартам гарадзенскага двараніна Вітальда Вітажэнца ў Сьвента-Янскіх мурах [у Вільні – В. Д. М.]».

**19. Пад час допытаў Каліноўскі адмовіўся называць імёны сваіх таварышаў, усяляк стараўся адвесьці ўвагу сьледчых ад сваёй каханай Марыі Ямант і яе сям'і**

«...не бываў у доме Ямантаў, (...) акрамя маладога Іосіфа Яманта, нікога ня ведаю»; «Выпрацаваўшы працай і жыцьцём разуменьне, што (...) шпіёнства апаганьвае чалавека (...) я палічыў неабходным заявіць Сьледчай Камісіі, што ў яе допытах наконт асобаў, якія ёй называюцца, я (...) павінен быць стрыманы ў сваіх паказаньнях (...) Прычыны і наступствы мною добра абдуманы (...) Мой гонар, годнасьць і тое становішча, якое я займаў у грамадзтве, не дазваляюць мне зрабіць іначай».

**20. Не баяўся сьмерці, а шыбеніцу параўноўваў з укрыжаваньнем**

За некалькі месяцаў да арышту пісаў: «Маскалі (...) пад рознымі прозьвішчамі шукаюць мяне ў Вільні (...) то праз вакно на дах, то іншымі спосабамі заўжды шчасьліва высьлізгваю зь іх рук. Бог нада мной апякуецца, а калі прыйдзецца павіснуць, то хай гэта будзе на пацеху усім літоўскім панам і прасьветлай Маскве»; «І шыбеніца сталася сёньня тым, чым быў крыж, калі Хрыстос зрабіў яго знакам збаўленьня – яе асьвяцілі нашыя героі...».



*Помнік паўстанцам (вёска Маховічы) 1863 г.*

# Віртуальны Крэўскі замак

**Цяпер дастаткова толькі камп'ютара і інтэрнэта, каб зладзіць тур у мінулае і разгледзець у дэталях замак, якога больш няма.**



Аўтар праекта пад псеўданімам Ахрэм Белабровік просіць разумець, што гэта не чыста навуковы праект. Дакладней будзе назваць яго арт-праектам, пабудаваным на навуковых фактах і гістарычных даследаваннях.

У гэтым ён бачыць яго адметнасць.

– Валодаючы такім магутным інструментам, як трохмерная камп'ютарная графіка, можна намаляваць, што заўгодна. І нашмат больш эпічнае, і нашмат больш уражальнае, – зазначае аўтар. – Ствараючы, я кіраваўся фактамі. Зусім не хочацца хлусліва перабольшваць у ілюстрацыі старонак нашай гісторыі. Яна сама па сабе дастаткова эпічная і велічная.

Адрас сайта, дзе можна ўбачыць віртуальны Крэўскі замак: vkl3d.com

### • Падштурхнула расчараванне ў вачах сына

Калі сын Ахрэма Белабровіка быў маленькі, бацька шмат распавядаў яму пра гісторыю нашай краіны. Пра яе росквіт, часы Вялікага Княства Літоўскага, пра знакамітых князёў, турніры, паходы ды слаўныя перамогі. Пра моцныя цытадэлі, велічныя палацы ды заможныя мястэчкі.

– І ён верыў мне, як верыць сын бацьку, – распавядае Ахрэм. – Аднойчы мы паехалі на экскурсію ў Навагрудак, калыску нашай дзяржаўнасці, першую сталіцу ВКЛ, да гары Міцкевіча і замка Вялікіх князёў. І калі сын пабачыў, што ад гэтага ўсяго засталіся толькі неахайныя руіны, сын павярнуўся да мяне і з непрыхаваным расчараваннем спытаў: "Ты гэта меў на ўвазе?" І, гледзячы ў яго вочы, поўныя смутку, я шмат зразумеў. Чаго вартыя тысячы слоў пра былую веліч, калі на свае вочы можна ўбачыць толькі развалiны, што засталіся ад шматлікіх войнаў і абыякавасці нас, нашчадкаў, да спадчыны?

Першапачатковая, але яшчэ невыразная задума аб віртуальным адраджэнні таго, што канула ў гісторыі і часе, з'явілася ў Ахрэма менавіта тады, на тым месцы, больш за сем гадоў таму.

### • Два гады пайшло на распрацоўку праекта

У стварэнні Ахрэму дапамагала каманда такіх жа неабыякавых. Сярод іх Андрэй Шулаеў, магістр архітэктуры, гісторыі, спецыяліст па ахове культурнай спадчыны, па абарончай архітэктуры, вядучы архітэктар, старшыня праўлення мясцовага дабрачыннага фонду "Крэўскі замак". Яго навуковае абгрунтаванне па замку змешчанае на сайце праекта. Дапамагаў і мастак, і праграміст.

Ідэя праекта цалкам празрыстая. Распрацоўшчыкі аднаўляюць знешні выгляд значных гістарычных мясцін, каб можна было пабачыць на ўласныя вочы, як яны выглядалі стагоддзі таму.

– Менавіта ўбачыць, а не прыгадаць, што нешта было ў школьным курсе ці ў нейкай перадачы. А некаторыя, можа, упершыню даведаюцца, што тут была не толькі зямля сялян

і саламяных стрэх, а магутная краіна замкаў і палацаў. Так што наша мэта – адрадзіць веліч і дух мінуўшчыны праз архітэктуру. Каб кожны ўбачыў, што мы маем гісторыю, якой можна ганарыцца.

У аўтара былі дзве цяжкасці ў працы над віртуальным замкам.

– Катастрафічны недахоп часу і, натуральна, недахоп інфармацыі, – прызнаецца Ахрэм.

Сёння, адкрыўшы сайт праекта і апынуўшыся ля сцен віртуальнага Крэўскага замка, вы можаце пашпацыраваць па ўнутраным двары, падняцца на другі паверх і паглядзець на краявід зверху. Аднак у збудаванні, што там месцяцца, і ў вежу пакуль уваходу няма.

– Гэта даволі балючае пытанне. Сутарэнні, дзе мог сядзець Вітаўт, намалявалі, але не дарабілі. І пакуль у праект гэта не ўвайшло. Адна тэхнічная дапрацоўка да Крэва будзе дакладна. Усе панарамы звядзём у адну ды выкладзем для вольнага сцягвання. Ёсць мара ў іншым праекце, віртуальным замку ў Гальшанах, хоць адну залу зрабіць, але зноў жа трэба час і інфармацыя па дэталізацыі.

### • Самае складанае ў праекце

Шмат часу, як адзначае аўтар, пайшло на пошук спецыялістаў, апрацоўку інфармацыі, падбор "жалеза" ды прыцірку праграмнага забеспячэння.

– У сярэднім на саму працу атрымлівалася выдзяляць па некалькі гадзін вечарамі. І гэта не ўлічваючы шматгадзінныя "рэндары", калі камп'ютар пралічвае адбудаваны папярэдне рукамі малюнак-панараму. Самае складанае – пераключацца з камп'ютарнай работы на працы на такую ж камп'ютарную ў вольную хвіліну.

Сёння Ахрэм жыве ў Мінску і працуе ў сферы інфармацыйных тэхналогій. Яго бабуля, дзядуля, бацька жылі ў Маладзечне. І сам ён таксама тут некалькі гадоў пражыў. Бабуля родам з вёсачкі паміж Вілейкай ды Смаргонню. А ў самой Вілейцы жыве блізкая радня.

### • Адкуль ідэя? Ад сэрца

Дакладных аналагаў такога праекта ў свеце аўтар не знайшоў.

– Былі спробы і Парыж, і Лондан старажытны аднавіць. Суседзі-літоўцы рабілі нешта падобнае, таксама на аснове камп'ютарнай графікі. Даволі маляўніча, прыгожа, але – толькі малюнкі. Так, як прадугледжвае праект, комплексна ды разгорнута, пакуль нідзе не сустракаў. Таму калі гаварыць больш пафасна – ідэя ад сэрца, – усміхаецца суразмоўца.

І сэрца, відаць, у валанцёра ўсё яшчэ гарыць. Таму што спыняцца на зробленым ён не збіраецца, гатовы працаваць далей. На карту ўжо нанесены Гальшанскі замак. Туды таксама ўжо можна зазірнуць.

Адкуль у аўтара натхненне?

– З аднаго боку, усё ад нашых краявідаў і гісторыі. З другога, як ні парадаксальна, – ад шэрых, амаль аднолькавых сучасных будынкаў ды хмурых твараў мінакоў. Хацелася прынесці хоць крышку радасці ды гонару за сябе і сваіх продкаў.

Цяпер сыну Ахрэма Белабровіка ўжо 19 гадоў. Калі ён ўбачыў віртуальны Крэўскі замак, усклікнуў: "Ну дык гэта зусім іншая справа!"

А пасля ўзяўся маляваць на паперы свой уласны выдуманы палац.

**dzedzich.org**



Прадаю аўтамабільныя дыскі, камплект.
Тэлефануюць ужо некалькі чалавек:
- А прадайце два з чатырох?
Я ім і адказваю:
- Так купіце чатыры, а потым два прадайце.
- Не, ну як я потым прадам два?
- Ну, а як я потым прадам ДВА?!

• • •

Нацсавет па тэлебачанні і радыёвяшчанні Ўкраіны прыняў рашэнне суправаджаць навіны расейскіх тэлеканалаў закадравым смехам.

• • •

Хлопец адчуў сябе неспакойна, калі гопнікі чужога раёна, у які ён паехаў праважаць сваю дзяўчыну, сказалі за яго спіной:
- Гэтага чапаць не трэба, ён з Машкай, смелы, відаць мужык.

• • •

- Мама, глядзі! Мне бегемоцік у «Кіндэры» трапіўся! Мама, чаму ты плачаш? Мама, я хутка знайду працу і з'еду. Ну маам...

• • •

8-классніца Пятрова села пісаць сачыненне «Як я правяла лета». Напісала загаловак, падумала, і на ўсялякі выпадак дапісала «18+».

• • •

На лекцыі па знешняй палітыцы РФ:
- Я разумею, Расеі не падабаецца прысутнасць краін, чальцоў НАТА, побач са сваёй мяжой. Хаця, гледзячы па гісторыі, Расеі ў цэлым не падабаецца прысутнасць краін побач са сваёй мяжой.

• • •

Дзяўчыны, вы рэальна думаеце, што мужчыны дзеляць вас на худых і тоўстых?
Насамрэч мужчыны падпадзяляюць жанчын на дзве катэгорыі:
1. Ды ну, не-е-е.
2. Нічога так!



- Сынок, ты дэбіл? Прыбяры гэта ад мяне!
- Пайшлі дарагая, па-мойму ты не вельмі спадабалася маім бацькам.

• • •

- Алё, зайка, ну ты дзе? Я цябе ўжо поўгадзіны чакаю!
- Ну, пуся, я збіралася.
- Зая, усе ўжо здалі іспыт, і калі праз паўгадзіны цябе не будзе, твой пуся моцна раззлуецца і адлічыць цябе з інстытута!

• • •

– Сынок, ты чаго дома? Ты ж з дзяўчынай жыў.
– Яна сказала, што стамляецца на працы і мне таксама трэба працаваць.
– Ну ўсё, не плач. Не сябруй з ёй.

• • •

Напэўна, гэта дзіўна, калі атэісты часам кажуць «божухна» ці «ня дай бог». Але хіба гэта больш дзіўна, чым калі рэлігійныя людзі кажуць «давайце будзем разумнымі»?

• • •

Жыў-быў у Канадзе адзін мужык, якому да смерці надакучыў снег. Усе быццам жывуць, як усе, а гэты - надакучыў яму снег, і ўсё тут! Мала таго, аднойчы ён развітаўся з сябрамі і сабраўся з'яжджаць.
Сябры яго пытаюць:
- Куды ты?
А ён ім адказвае:
- А хрэн яго ведае! Вось я на багажнік прывязаў лыжы, буду ехаць, куды вочы павядуць. А калі мяне спытаюць: «Што гэта?» (пра лыжы), вось там і застануся жыць.
Прайшоў час. Мужык даслаў сябрам ліст, што ён жыве вось там, уладкаваўся, усё ў яго добра, і ён усіх запрашае ў госці.
Ну, сябры яго, вядома, не маглі адразу паехаць. Але потым усё ж сабраліся і паехалі па пазначаным у лісце адрасе, у вельмі цёплую краіну, дзе ніхто не ведае, што такое лыжы.
Прыехалі, а мужыка там ужо няма!
Суседзей распыталі, а тыя і кажуць:
- Неяк раптоўна сабраў рэчы, прывязаў на багажнік негра і з'ехаў.

• • •

Муж без жонкі гэта як дуб без дзятла.

• • •

У палаце хворага раздаецца званок. Тэлефануе ягоны доктар:
– Добры дзень. Я вымушаны Вас расстроіць.
– Што такое?
– Рэч у тым, што па выніках вашых абследаванняў у Вас выяўлены пранцы, кароста, сухоты, брушны і сыпны тыф,

тулярэмія, жоўтая ліхаманка, гепатыт А і Б, дызентэрыя, адзёр, рожа, СНІД, ганарэя і лішай.

– Што вы кажаце!!! Не можа быць! Ну Вы хоць будзеце мяне лячыць?!

– Так, канешне! Безумоўна! Мы нават ужо прызначылі Вам блінную дыету!

– А гэта хоць неяк дапаможа мне?

– Ну... Наконт дапаможа ці не я не ведаю, але гэта адзіная ежа, якая пралазіць пад дзверы.

• • •

Калі суседскія дзеці моцна шумяць, скажыце ім праз сценку, што вы гномік, які жыве ў разетцы, і вас трэба пакарміць цвікамі.

• • •

Муж без жонкі гэта як дуб без дзятла.

• • •

Жаночы спіс справаў.

1. Купіць шмат сукеначак.
2. Не насіць іх, бо ў джынсах зручней.

1. Купіць шыкоўныя туфлі да сукенкі.
2. Шукаць шыкоўную сукенку, да якой купіла шыкоўныя туфлі.

1. Парваць калготкі.
2. Купіць новыя.
3. Парваць.

Прамыя валасы – закучаравіць. Кучаравыя – выпраміць.

1. Адрасціць валасы.
2. Коратка падстрыгчыся.
3. Ныць, што хочаце доўгія валасы.
4. Паўтарыць першыя тры пункты.

1. Месяцамі расціць пазногці.
2. Трохі прыламаць адзін.
3. Паспрабаваць падпіліць
4. Псіхануць і зразаць усё да ліха.

1. Спецыяльна слухаць сумныя песні.
2. Накруціць сябе.
3. Расплакацца.

1. Кінуць яго ў чс.
2. Забыцца, што кінула яго ў чс.
3. Пакрыўдзіцца, што не піша.

1. заблакаваць яго
2. разблакаваць яго
3. заблакаваць яго
4. разблакаваць яго
5. паўтараць гэты святы рытуал

1. Пакрыўдзіцца.
2. Чакаць пакуль папросіць прабачэння.
3. Даведацца, што ён не зразумеў, што ты пакрыўдзілася.
4. Пакрыўдзіцца.

1. Дамовіцца з сяброўкай пра сустрэчу.
2. Папрасіць яе не спазняцца.
3. Спазніцца на гадзіну.

1. Ой, усё…

# АБ'ЕКТЫЎна

"Дзедзіч" заўсёды дае маладым таленавітым людзям магчымасць прэзентаваць сваю творчасць шырокаму колу чытачоў. Нехта дасылае вершы, нехта - фота. Сёння на апошняй старонцы - наша рубрыка "АБ'ЕКТЫЎна", дзе кожны малады фатограф можа апублікаваць свае самыя ўдалыя фоткі. Чарговым героем нашай рубрыкі стала Інга Воран. Знаёмцеся:

– Я Інга, мне 23 гады.

Фотаздымкамі займаюся каля года. У асноўным здымаю канцэрты, разнастайныя мерапрыемствы. Радзей - партрэты.

У фота хачу передаць усе тыя эмоцыі, якія перажываюць людзі, паказаць іх прыгажосць.

На гэтым фота мая добрая знаёмая Ганна, фота зроблена падчас звычайнай прагулкі.

Ёсць мноства планаў, ёсць шмат магчымасцяў. Самая галоўная мара звязана менавіта з фотаздымкамі.



Больш падрабязна з творчасцю Інгі можна пазнаёміцца на адмысловай старонцы Укантакце: https://vk.com/club74909675

Дзедзіч Інфармацыйна-аналітычны бюлетэнь • №4(91) • Ліпень 2015
dzedzich@dzedzich.org • www.dzedzich.org



**Заснавальнік: ініцыятыўная група моладзі**
**Распаўсюджваецца бясплатна**
Падпісана ў друк 31.07.2015 года у 18-00
Папераафсетная, фармат А5, 1,5 ул.-друк. аркуша.
Гарнітура Myriad
Надрукавана на памнажальнай тэхніцы сябраў рэдакцыі
**Наклад 299 асобнікаў**

**Галоўны рэдактар: Дзмітрый ШЫМАНСКІ**
Рэдкалегія: Ю.МІКАЛАЕВА, А.КАХОВІЧ, П.ДАЙЛІД, У.КРАСЬКО, А.ТРУС
Адказны за выпуск: Вольга ЯРАМЧУК
**Кантактныя тэлефоны:** (029) **660-57-41**, (029) **724-21-16**
Пры выкарыстанні матэрыялаў бюлетэня спасылкі на крыніцу абавязковыя
Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў і друкаваць артыкулы для далейшай палемікі